


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 9 (1096) ГОД XXII БЕЛАСТОК 27 ЛЮТАГА 1977 г. ЦАНА 60 гр.



*Хор з Арэшкава Гайнаўскай гміны заняў першае месца ў групе калектываў у катэгорыі фальклорнай песні разам з калектывам з Дубяжына.*

## БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ — 77

# Служаючы роднаю песню

У нашым асяроддзі штогод цэнтральны агляд конкурсу „Беларуская песня“ папярэджваюць эмоцыі: спевакі хвалююцца перад выступленнем і ў часе выступлення, бо хочуць, каб іх песні і выкананне прыйшлося да спадобы слухачам, а слухачы з нецярплівасцю чакаюць гэтай, традыцыйнай ужо, сустрэчы з роднай песняй, любімымі выканаўцамі, а таксама з новымі галасамі і творамі. І трэба адразу заўважыць, што сёлета наступіла амаль поўнае здзяйсненне спадзяванняў і адных і другіх — 30 студзеня г.г. у глядзельнай зале Галоўнага праўлення БГКТ быў арыгінальным, святочным калейдаскопам беларускіх мелодый.

У ім прыняло ўдзел каля 70 спевакоў і акампаніятараў, прагучэла 46 конкурсных твораў і амаль столькі ж па-за конкурсам. Яны былі выкананы на высокім узроўні, значна вышэйшым, чым на якім-небудзь з сямі папярэдніх аглядаў. І надта ж шкада, што „Беларуская песня-77“ адбылася ў камеральных умовах, перад невялічкай колькасцю слухачоў (колькі змагла памясціць зала ГП БГКТ), а не перад вялікай аўдыторыяй у зале „Звянзкоўца“, як гэта было ў папярэднія гады.

На аглядзе творы сучасных беларускіх кампазітараў Ю. Семянякі, У. Алоўнікава, А. Шыдлоўскага і іншых чаргаваліся з народнымі песнямі, што здаўна спадарожнічаюць беларусам тут, на пабярэжжы Буга, Нурца, Нарвы ці Супраслі. І гэта не толькі не прыносіла шкоды канцэрту, але выдатна ўплывала на яго разнастайнасць. Тым больш, што ўдзельнікі пераважна паклапаціліся знайсці і вывучыць такія творы, якія дагэтуль выконваліся рэдка або цалкам не выконваліся на нашых сцэнах. Гэта часцей за ўсё заўважалася ў фальклорных песнях, напрыклад, калектыў з Арэшкава праспяваў дзве вельмі даўнія, забытыя песні *„Чырвоная вішня...“* і *„Дзіся субота, заўтра нідіеля...“*, дуэт Н. Мушынская і Н. Цыванюк з Гарадка — надзвычай мілую *„Вясёлую бясёдачку...“*, а саліст А. Раманюк з Дубяжына захапіў усю залу *„Песняй бабыля“* і *„Чачоткай“*. Гэтыя выбраныя прыклады — красамоўны доказ праўдзівасці прыказкі: *„Каму ў голаў зойдзе, то і за печчу знойдзе“*... цудоўную мелодыю. А шукаць варта і ў розных кніжных выданнях і ў народзе. То ж сам пошук — ужо і ёсць азнаямленне з песенным багаццем свайго народа, значыць, справа надта ж карысная для кожнага. А калі гэта датычыць бясцэннай культурнай спадчыны нашых дзядоў і прадзедаў, увасрашэння з забыцця яе, *„утаптанай у пыл“*, як пісаў М. Федароўскі, каб потым яна, бы брыльянт, заззяла ўсёй сваёй прыгажосцю перад шырокім колам слухачоў — гэта ўжо ўклад у нашу нацыянальную культуру. І гэта наш высакародны абавязак.

Цікава, што на апошніх аглядах пераважаюць мясцовыя народныя песні. З аднаго боку гэта надта пахвальна сведчыць пра нашых спевакоў, што вельмі высока цэняць тутэйшыя фальклорныя песні, але з другога — гэта вельмі вострыі непрыемны сігнал пра вялікі недахоп інструктараў, якія маглі б нашым спевакам развучыць новыя песні, што ў апошні час выйшлі з творчага варштату кампазітараў і апублікаваны ў спеўніках або часопісах. А пра тое, што беларускія кампазітары пішуць цудоўныя рэчы, доказам з'яўляецца выступленне Т. Ільяшук, дуэту Т. Ільяшук і Л. Грайко, а таксама калектыву *„Дзявочыя ноткі“* з Бельскага беларускага ліцэя. Яны працуюць пад кіраўніцтвам дырэктара мясцовага дома культуры і адначасова настаўніка гэтага ж ліцэя С. Лукашука над сучаснымі беларускімі песнямі, чароўнымі песнямі!



*Аляксандр Раманюк з Дубяжына заняў першае месца ў групе салістаў у катэгорыі фальклорнай песні разам з Зоф'яй Цацэрка і здабыў узнагароду „Нівы“.*

Наш конкурс — арганізм жывы. Кожны год у ім прымаюць удзел новыя калектывы, дуэты, салісты, адыходзяць жа старэйшыя. Наогул, гэта працэс заканамерны, правільны. Але ў бягучым годзе ўсе мы надта балюча ўспрынялі адсутнасць на сцэне заслужаных *„Васілёчкаў“* з Бельска, добрых калектываў з Белавежы, Меляшкоў, Новай Волі. Ці ім не хапіла сілы і ахвоты, каб сваім чароўным майстэрствам папулярызаваць родную песню, славіць свае мясцовасці? Спадзяемся, што сёлетні хвілінны перапынак у іх працы хутка скончыцца, і ўжо ў конкурсе „Беларуская песня — 78“ мы іх зноў сардэчна прывітаем на сцэне.

Непакоіць нас і тое, што неяк зусім заглохлі паўночна-ўсходнія гміны Беласточчыны: Міхалова, Заблудаў, Васількова, Супрасль, Чорная Беластоцкая, Крынкі, Шудзялава, Саколка, Кузніца, а таксама яе паўднёвыя ўскраіны — Мельнік, Драгічын, Сямяцічы, Гродзіск. Не мала іх, праўда? Не чуем мы адтуль песень. Чаму? І хочацца накіраваць да іх і іншых маўчалівых папулярную ў ваколіцах Нараўкі *„вяснянку“*:

*Што вам, людочкі, за ліха, за ліха?*
*Што ў вашым баку так ціха, так ціха?*
*Па чужых сёлах грают і співают,*
*а вашу старонку нямой называют!..*

Ачніцеся! Родная песня вас чакае!

**Ігнат Снарскі**

Фота К. Свідэрскага

## Новыя вершы

### ВЁСЦЫ

*Доўгія шляхі і павароты,*
*Звабны бляск,*
*і мітусня*
*і шум*
*Прападаюць, калі мне вароты*
*Вёска адчыняе, як душу.*

*Што там — за варотамі —*
*я знаю:*
*Спее жыта. Каласы звіняць.*
*І бяжыць дарога палявая,*
*Так бяжыць,*
*што цяжка даганяць.*
*Я к табе не з ціхім жалем, вёска,*
*Еду, не тады,*
*калі баліць...*
*Я к табе — той вечнаю бярозкай,*
*Што ніхто не змог перасадзіць.*

**Яўгенія Янішчыц**

## ГУТАРКА ДЗЯДЗЬКІ МАКСІМА

Было гэта яшчэ ў даваенны час. Адзін мой знаёмы трапіў у глухую палескую вёску, дзе мясцовы майстар, дасканалы столяр, палавіну свайго жыцця патраціў на тое, каб зрабіць... р о в а р. І зрабіў! Цэлы з дрэва, без аднаго нават цвіка. Але аднавяскоўцы за гэта празвалі яго ведзьмаром, бо ніхто з іх не ведаў, што гэтай адмысловай машынкай людзі карыстаюцца ўжо дзесяткі гадоў.

І гэта можна зразумець. Але як паясніць сабе той факт, што ў наш час, у час масавай інфармацыі, сяляне, скажам, такой Мілейчыцкай, Нурэцкай ці Кляшчэлеўскай гмін, жывуць і спраўляюцца на сваіх гаспадарках шмат горш чымсьці, для прыкладу, сяляне ў гмінах Монькі, або Тыкоцін?

З Мілейчыц у Монькі кіламетраў 120. Пры сучасных умовах гэта зусім пасуседску. Дык чаму ж не павучыцца ў суседзяў?!

Мікалай Бартнічук, начальнік гміны ў

# ПАВУЧЫЦЦА Ў СУСЕДЗЯЎ

Мілейчыцах, гаварыў мне, што ў гэтым годзе плануюць яны аж трох гаспадароў — і гэта ён намагаўся асабліва падкрэсліць — аж трох гаспадароў загітаваць, каб яны захацелі спецыялізавацца ў адной галіне сельскагаспадарчай вытворчасці. А вось начальнік Манецкай гміны, інжынер Яўгеній Пажэцкі, расказваючы пра свае сельскагаспадарчыя справы, неяк сарамліва заявіў, што ў іх пакуль што 100 спецыялістычных гаспадарак, што хацелі б да 1980 года павялічыць іх лік да 150! Па некалькі ў кожнай вёсцы. Ды так яно павінна і быць, бо няма іншага шляху для стымуліроўкі сельскагаспадарчай вытворчасці. Спецыялізацыя і толькі спецыялізацыя!

Колькі ўжо год езджу я па вёсках нашай Беласточчыны! І што ж даводзіцца бачыць? Праўда, саламяных стрэх не толькі над жылымі дамамі, але і над гаспадарчымі будынкамі ўсё ў нас менш і менш. Аднак большасць нашых

(Працяг на стар. 4)




**Патрыярх беларускай культуры ● Марсіянская вайна ● Яшчэ аб песенным аглядзе ● „Беларускалій“ ● У краіне завоблачных гор ● Літаратурная старонка ● Размова аб найважнейшым ● Пад імем Кастуся Каліноўскага ● Весткі з Варшавы, Беластока, Гайнаўкі, Бельска, Нараўкі, Шудзялава, Крывяціч ● Мода ● Калі сніцца сыр ● Песня „Ślubne prezenty“.**




# Аплявуха ІТТ

Хто наступны — амерыканская кампанія „Тэксас інструментс“ (паўправаднікі) або сам канцэрн „ІБМ“ (вылічальная тэхніка)? Якая яшчэ перадавая ў тэхнічных адносінах галіна эканомікі Францыі пяройдзе пад французскі кантроль? — пытае орган дзелавых колаў ЗША, штотыднёвік „Бізнес уік“.

Гэта парадаксальнае рытарычнае пытанне — своеасаблівы папераджальны залп з-за акіяна: амерыканскі бізнес не на жарт занепакоен новым паваротам барацьбы з французскімі кампаніямі. Французы, наракаюць у ЗША, пачалі паводзіць сябе не па-джэнтльменску: выцясняюць амерыканскі капітал з унутранага рынку Францыі. Нядаўна, напрыклад, шматнацыянальная „Інтэрнэшнл тэлефон энд тэлеграф карпарэйшн (ІТТ) прадала парыжскай кампаніі „Томсан“ свой французскі філіял „Ле матэр'ель тэлефанік“ („ЛМТ“).

Гісторыя, пра якую цяпер шмат гавораць па абодва бакі Атлантыкі, пачыналася ў Парыжы год назад у даволі руціннай сітуацыі. Дзяржаўны сакратар па пытаннях пошт і сувязі накіраваў французскім прадпрыемствам цыркуляр, які рэкамендаваў падрыхтаваць прапановы для пераабсталявання ўстарэлай тэлефоннай сеткі краіны. Звычайны бюракратычны цыркуляр, але ён ускалыхнуў дзелавы свет Францыі: гэта ж не жарт, як удалося ўстанавіць, гутарка ішла аб урадавых заказах на суму 120 мільярдаў франкаў. Да „тэлефоннага Клондайка“ кінуліся ўсе — французскія фірмы і іх замежныя канкурэнты: амерыканская ІТТ, галандская „Філіпс“, шведская „Эрыксан“, заходнегерманская „Сіменс“ і іншыя. Цікавасць да гэтага пытання была настолькі вялікая, што чыноўнікі дзяржсакратарыята не паспявалі прачытваць вялізныя пакеты, якія накіроўваліся канкурэнтамі. За некалькі месяцаў яны атрымалі... паўтары тоны дакументаў-прапаноў.

Сярод французскіх фірм першае месца ў „тэлефоннай“ гонцы заняла кампанія „Томсан“. Яе прэзідэнт Поль Рышар нямала папрацаваў, каб атрымаць ільвіную долю ўрадавых заказаў. За апошнія гады „Томсан“ ператварылася ў буйнейшага экспарцёра электроннага і электратэхнічнага абсталявання, сёння на яе прадпрыемствах працуе больш чым 100 тысяч чалавек. Поль Рышар (ён памёр неўзабаве пасля атрымання заказаў, але дырэкцыя заявіла, што ніякіх перамен у курсе кампаніі не будзе) цвёрда дабіваўся расшырэння пазіцый „Томсана“ на ўнутраным рынку. А гэта азначала барацьбу з замежнымі фірмамі, і перш за ўсё з амерыканскімі. У дырэкцыі „Томсана“ на бульвары Хаўсман нарадзілася ідэя захопу кампаніі „ЛМТ“. Мэта падрыхтаванага экспертамі праекта — прымусіць амерыканскага канкурэнта пакінуць рынак тэлефоннага абсталявання Францыі.

Французскі выклік прыняў гаспадар ІТТ Гарольд Джэнін. У Парыж была адпраўлена група „штурхачоў-каўбояў“, як іх назваў французскі друк, каб на месцы ўламаць упартых парыжан і абараніць інтарэсы імперыі. Пасланцы Джэніна разгарнулі бурную дзейнасць, выкарыстоўвалі розныя сродкі нациску і шантажу, інтрыгавалі ў кулуарах Елісейскага палаца, але безвынікова. ІТТ была вымушана праглынуць горкую пілюлю паражэння і ўступіць.

Выпадак з аплявухай ІТТ далёка не адзінкавы. Страціла кантрольны пакет акцый у сваім французскім філіяле кампанія „Ханіўэл“. Гэты філіял паглынула французская „Кампані энтэрнасьянал д'энфармацік“. Амерыканская „Вестынгаўз электрык“ прадала свае актывы кампаніі „Фраматом“, што займаецца вырабам абсталявання для атамных электрастанцый.

Але амерыканскія дзялкі прывыклі ўжо залазіць у кішэню французскага саюзніка і не могуць так проста адмовіцца ад гэтай прывычкі. Яны прагнуць рэваншу. Нядаўна за акіянам быў адобраны план ператварэння Парыжа... у сусветную сталіцу шматнацыянальных кампаній. Аўтары гэтага плана прапануюць французскаму ўраду пераехаць у Арлеан (на іх думку, у даным пытанні цяжкасць заключаецца толькі ва ўзгадненні цаны, якую трэба заплаціць французам за пераезд), а Парыж ад-

(Працяг на стар. 5)



## Наш каляндар



## Павел Гаўрыленка

Нарадзіўся **Павел Гаўрыленка** 28 лютага 1902 года ў вёсцы Касцюкоўка на Гомельшчыне. Майстэрству жывапісу вучыўся ў 1926-1930 гадах у выдатных беларускіх мастакоў і педагогаў В. Волкава і М. Керзіна ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме.

Ужо ў першых яго карцінах (*„Ліцейны цэх“* і *„Калгасная брыгада“*), што паўсталі на пераломе дваццатых і трыццатых гадоў, цэнтральнымі героямі з'яўляюцца працоўныя людзі. Потым на манументальным палатне *„Раззбраенне карнілаўцаў у Гомелі. 1917 год“* на пярэднім плане мастак ставіць безыменных рэвалюцыйных салдат, якія раззбройваюць ворагаў нараджаючайся народнай улады. Гэтыя ж абаронцы прадстаўлены і ў карціне *„Партызаны на Палессі“* (1944 год) ужо ў іншых гістарычных умовах, на ўлонні багатай палескай прыроды. У працах *„З зямляпак у новыя дамы“* і *„Вясна“* гэтыя ж змагары за свабоду роднай зямлі перажываюць шчаслівыя часіны ў мірнай працы. Як кожны творца, так і П. Гаўрыленка меў і асабліва блізкую сэрцу тэму, было ёю басаногае, пастушковае, рамантычнае дзяцінства. Гэта знайшло адбітак у яго *„Партрэце хлопчыка-партызана“*, *„Ідзе эшалон“* і іншых карцінах.

Галоўным героем яго карцін быў заўсёды просты чалавек. І, відаць, вынікала гэта не столькі з прынятай ім праграмы творчасці, колькі з факту, што ён сам выйшаў з глыбінь беларускага народу, а з пэндзлем і палітрай стаў перад мальбертам тады, калі светапогляд і характар былі ў яго канчаткова сфармаваны.

Памёр мастак 4 лютага 1961 года. Яго творчая спадчына займае важнае месца ў беларускім савецкім жывапісе. (іс)



*П. Гаўрыленка. На партызанскім аэрадроме*

**ШЛЯХАМ ГАДОЎ**

*Пад гэтым загалоўкам „Ніва“ адкрывае новы цыкл артыкулаў. Чытачы знойдуць у іх матэрыялы аб людзях і падзеях, якія ў нейкай ступені ўздзейнічалі і ўздзейнічаюць на ход гісторыі, на фармаванне нашага сённяшняга і заўтрашняга дня.*

# Замест кветак на свежую магілу АЛЯКСАНДРА БАГДАНЧУКА

У пісьме атрымала я вестку, што ў Мінску памёр Аляксандр Багданчук.

Паходзіў ён з вёскі Чамяры каля Слоніма, якая ў санацыйных судовых актах звалася „камуністычнай Меккай“. Назву гэтую займела не беспадстаўна, бо Чамяры былі невычэрпнай крыніцай рэвалюцыйнага актыву. Бліжэйшыя і далейшыя родзічы заглядваліся на Аляксандра, які быў натхняльным духам тамашняй моладзі. І не толькі моладзі са свайго сяла, але і з усяго наваколля. Аўтарытэт яго займаў і большы абсяг — ён карыстаўся пашанай і ў людзей таго пакалення, якое ўжо нельга было залічыць да моладзі.

Санацыйныя карэспандэнты і гісторыкі пісалі, быццам у Заходняй Беларусі кіпела толькі таму, што дзейнічалі ў ёй прысланыя камісары. Але ніводзін „камісар“, ніводзін прыезджы нічога не зрабіў бы, калі б не змог абаперціся на такіх мясцовых дзеячоў, такіх „масавікоў“, якім быў Аляксандр Багданчук.

У маёй памяці астаўся такім, якім я яго пазнала ў 1926 годзе, калі ўпершыню выплыў ён на шырэйшыя воды і стаў актыўным членам акругowага выканаўчага камітэта Баранавіцкага акруговага камітэта Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі з сядзібай у Слоніме (гэтую „сядзібу“ нельга разумець даслоўна, таму што больш часу наш невялікі актыў праводзіў у ваколіцах Слоніма, Ружаны, Косава, Івацэвічаў (Яглевічы), Навагрудка, Карэлічаў, Міра, Баранавіч і г.д.). І не было такога выпадку, каб на новае спатканне Аляксандр не прывозіў поўнага мяха навін, заўсёды цікавых, заўсёды пацвярджаючых нястомную энергію яго і ягоных выхаванкаў, заснаванне новых гурткоў „Грамады“ і іншыя заваёвы.

„Грамада“ абавязана Багданчуку значна болей, чым тыя некалькі дзесяткаў гурткоў, якія ён меў на сваім рахунку. Абавязана яму тое, што ён уздзейнічаў на Максіма Бурсевіча, так-

(Працяг на стар. 5)






**Sobota — 26.II.** 6.00 Tech. Rol. Upr. rośl. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla klasy VIII. Nauka o czł. 11.30 Pamiętnik wychowawcy — odc. II filmu ser. 13.45 Tech. Rol. J. pol. 14.30 Hod. zwierz. 15.00 Pr dnia. 15.05 Kapitan Ali — film dla dzieci. 15.35 Dziennik. 15.55 Obiektyw. 16.15 Sobota Mł. 17.00 Sport. 17.45 Lawina — radz. dramat woj. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Gentelman z Cocody — kom. fr.-włos. 22.00 Dziennik. 22.15 Śpiewa Georges Moustaki. 23.10 Bob, Carol, Ted i Alice — kom. ameryk.

**Niedziela — 27.II.** 6.00 Tech. Rol. J. pol. 7.35 Hod. zwierz. 7.55 Nasze spotk. 8.10 Sport. 8.30 Now. w domu i zagr. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. 10.20 Antena. 10.45 Biały niedźwiedź — dok. film radz. 11.35 Dziennik. 11.55 Rolnicze rozmowy. 12.25 Tylko w niedzielę.

**Poniedziałek — 28.II.** 12.45 Tech. Rol. Chem. 13.25 Biolog. 15.50 NURT 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Zwierzyniec. 17.45 Radar. 18.05 Znaki szczególne — odc. I pt. „Podejrzany” filmu TP. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teaatr Telewizji: Stanisław Przybyszewski „Dla szczęścia”. 22.00 Camerata. 22.35 Dziennik.

**Wtorek — 1.III.** 6.00 Tech. Rol. Chem. 6.30 Biol. 9.00 Dla klasy VI. J. pol. 11.30 Film fab. 13.45 Tech. Rol. Mat. 14.30 Mech. rol. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Studio Mł. 17.35 Kółko i krzyżyk. 17.50 Tokio — film dok. 18.25 Komicy niemego ekranu. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Lucjan Leuwen — odc. III filmu ser. 22.20 Świat i Polska. 22.55 Dziennik.

**Środa — 2.III.** 6.00 Tech. Rol. Mat. 6.30 Mech. rol. 9.00 Dla klasy VII. Chem. 10.00 Fiz. 11.30 Film fab. 12.45 RTV szk. śred. J. pol. 13.25 Mat. 14.00 W drodze do nowego. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Dla dzieci. 17.30 Los. Mał. Lot. 17.45 Studio Interdisko — przedstawi przeboje sezonu zimowego. 18.35 Świat, który nie może zaginąć. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Dramat wojenny „Dziecko wojny”. 22.25 XYZ cz. II. 22.55 Dziennik.

**Czwartek — 3.III.** 6.00 RTV szk. śred. J. pol. 6.30 Mat. 11.05 Dla klasy VII. J. pol. E. Orzeszkowa „ABC”. 12.00 Dla klasy VIII. St. Żeromski „Siłaczka”. 12.30 Decyzje piętnastolatków. 12.55 Dla klasy IV lic. J. pol. L. Staff. 13.45 Tech. Rol. Hist. 14.30 Upr. rośl. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Ekran z bratkiem. 18.00 Poligon. 18.20 Pr. oświatowy. 18.50 Radzimy rolnikom. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Teatr Sensacji. J. S. Znamierski „Honor bez motywów” cz. I pt. „Czy ja zabiłem”. 21.55 Pegaz. 22.40 Dziennik.

**Piątek — 4.III.** 6.00 Tech. Rol. Hist. 6.30 Upr. rośl. 9.00 Dla klasy V. Geogr. Wśród śniegów i lodów. 10.00 Dla klasy VI. Pojezierze Drawskie. 11.05 Dla klasy VII. Wych. ob. 11.35 Film fab. 12.45 Tech. Rol. Upr. rośl. 13.25 Hod. zwierz. 15.50 NURT. 16.25 Pr. dnia. 16.30 Dziennik. 16.40 Obiektyw. 17.00 Pora na Telesfora. 17.30 Lektury Pegaza. 17.45 Niedzielne dzieci — film fab. pol. 19.00 Dobranoc. 19.30 Dziennik. 20.30 Trudne powroty — film fab. radz. (kolor) 22.00 Pamiętnik wychowawcy — odc. III film ser. 23.05 Dziennik. 23.20 Ekran i życie.




**Piątek 25.II** — 8.15 Spektakl. 12.50 Spektakl lalkowy. 13.50 Film fab. 16.20 Wieczór aut. A. Makajonka. 18.00 Nasza biografia. 19.30 Hokej. Spartak-Skrzydła Rad. 20.05 Pr. rozr.

**Sobota 26.II** — 12.00 Hokej. CSKA — Dynamo (M). 15.40 Koncert. 16.25 W świecie zwierz. 17.25 Koncert. 17.45 Film fab. 19.30 Panorama film. 21.00 Filmy anim. dla dor.

**Niedziela 27.II** — 9.00 Koncert. 10.30 Dla dzieci. 11.30 Film fab. 13.55 Sport. Narty. 16.15 Film anim. 16.45 Klub film. 17.45 Film fab. 20.35 Sport.




**Białowieża** Dowódca armii — radz. 1—2. Czterej muszkieterowie — panam. 3—4. Policja przygląda się — wł. 5—6.

**Czyże** Kangur — węg. Żona Jana — szwedz. 2—6.

**Dubicze Cerkiewne** Granica miłości — węg. Premia — radz. 2—6.

**Kleszczele** Jesień debiutantów — rum. 1—2. Operacja „Dąb” — rum. 3—4. Dzień szarańczy — USA — 5—6.

**Michałowo** Łobuz — fr. 1—2. Pojedynek na wietrze — jap. 3—4. W środku lata — pol. 5—6.

**Mielnik** Partita na instrument drewniany — pol. 2. Szczęki — USA 5—6.

**Milejczyce** Piosenka za koronę — czes. 1—2. Nie ma róży bez ognia — pol. 3—4. Szklana kula — pol. 5—6.

**Narew** Tak zaczyna się miłość — czes. Największe wydarzenie od czasu gdy człowiek stanął na księżycu — fr. 2—6.

**Narewka** Afonia — radz. Kto szuka złotego dnia — czes. 2—6.

**Nurzec** Zbuntowani — buł. 1—2. Krótkie życie — pol. 3—4. Oni walczyli za ojczyznę — radz. 5—6.

**Orla** Trzecia córka — radz. Hazardziści — pol. 2—6.

**Rajsk** Moja wojna, moja miłość — pol. Ostatni skok gangu Olsena — duń. — 2—6.

B.Z.Graf. Zam. 465 B-4

# З'езд карэспандэнтаў

У апошнюю нядзелю студзеня адбыўся з'езд карэспандэнтаў „Нівы". Вяла яго журналістка „Нівы" В. Валкавыцкая, якая рэдагуе сёмую старонку, вядомую як „Трыбуна чытачоў". Ва ўступным слове яна адзначыла плённае супрацоўніцтва з карэспандэнтамі, якія ў 1976 годзе апублікавалі 570 матэрыялаў — артыкулаў, заметак, гумарыстычных, сатырычных і крытычных публікацый. Прозвішчы найлепшых і найбольш працавітых карэспандэнтаў былі пададзены ў трэцім нумары „Нівы" ад 16 студзеня 1977 года.

В. Валкавыцкая сказала, што авангард „Ніваўскіх" карэспандэнтаў працаваў у мінулым годзе больш салідна і сістэматычна. Яна падзякавала ўсім нашым працавітым, надзейным і адважным супрацоўнікам.



*Сямейны здымак удзельнікаў з'езду.*



*У рады карэспандэнтаў прыйшло маладое папаўненне...*

Аб інтэрвенцыйнай дзейнасці рэдакцыі расказаў журналіст „Нівы" Я. Цялушэцкі. У мінулым годзе ўзрос ранг „Ніваўскай" крытыкі. Рэдакцыя атрымала мала менш сотні адказаў на крытычныя выступленні карэспандэнтаў, якія былі больш прадуманыя, праверaныя, больш трапныя. Дзякуючы гэтаму былі ліквідаваны шматлікія дрэнныя з'явы ў працы многіх прадпрыемстваў і ўстаноў, яны дапамаглі наладзіць шмат усялякіх спраў, мабілізавалі многіх, каб падцягнуліся, выправілі тыя ці іншыя памылкі. Адказы, дадзеныя рэдакцыі ў рубрыцы „У адказ на нашу крытыку", часта правяраюцца. Аказваецца, што не заўсёды можам ім даваць. Пацяшальным фактам з'яўляецца тое, што рэдакцыя атрымлівае адказы на ўсе свае крытычныя выступленні.

Затым адбылася дыскусія, у якой свае думкі выказвалі М. Матвеюк, М. Няплоха — абое з Бельска, Ул. Сідарук з Кузавы, Э. Шчасновіч з Шчасновічаў, М. Лук'янюк з Белак і інш.

З'езд праходзіў у творчай і сардэчнай атмасферы. Карэспандэнты шмат увагі прысвяцілі водгукам на свае публікацыі ў чытачоў, ва ўстановах і на прадпрыемствах. Шматгадовыя карэспандэнты дзяліліся сваім вопытам, расказалі аб супрацоўніцтве з гміннымі ўладамі і аб сваіх планах.

З планам рэдакцыйнай дзейнасці знаёміў удзельнікаў з'езду галоўны рэдактар „Нівы" Г. Валкавыцкі. Заклікаў ён пісаць перш за ўсё аб людзях добрай работы, асабліва з вясковага асяроддзя, перадаваць іх вопыт іншым, аб тым, як ажыццяўляюцца пастановы нашай партыі і ўрада, як загаспадароўваецца пакінутая адлогам зямля, ці выкарыстаны ўсе існуючыя ў нашай сельскай гаспадарцы рэзервы і г.д. „Ніва" павінна накіроўваць вастрыё сваёй крытыкі на марнатраўства, партацтва, паказваючы вялікую шкоднасць гэтых з'яў. Адначасова павінна паказваць факты, якія пацвярджаюць тое, што добра працаваць аплочваецца. Галоўны рэдактар расказаў аб планаваных новаўвядзеннях на старонках „Нівы". Адзначыў вялікі поспех у падпісцы на „Ніву". Затым адказаў на шматлікія пытанні.

На заканчэнне з'езду найбольш актыўныя карэспандэнты атрымалі рэчавыя ўзнагароды. Галоўны рэдактар уручыў іх: М. Няплоху — першаму карэспандэнту 1976 года і М. Панфілюку — другому карэспандэнту года. Трэці карэспандэнт атрымае ўзнагароду пазней, калі вернецца з замежнай пабыўкі, дзе зараз знаходзіцца. Апрача таго, першыя дваццаць карэспандэнтаў атрымалі дыпломы.

Тэкст і фота **Я. Цялушэцкага**



*Першы карэспандэнт 1976 года Мікалай Няплоха пасля атрымання ўзнагароды і дыплома.*

## Ад родных ніў

### ЧАЛАВЕК

*Спярша поўзаць навучыўся,*
*а потым пачаў хадзіць.*
*Бацька цешыўся, насіўся,*
*чалавек пачынаў жыць.*
*А калі стаў падрастаці*
*і ў школу стаў хадзіць,*
*любіў збоку пагуляці,*
*людзям шкоды нарабіць.*
*Як да лет стаў дарастаці,*
*прывучаўся водку піць,*
*да паўночы мог гуляці,*
*дзяўчат ласкаць і любіць.*
*Рабіў, гуляў пару летак,*
*для яго быў свет тады.*
*Яшчэ не меў сваіх дзетак,*
*быў здаровы, малады.*
*Час прышоў ісці ў салдаты —*
*праз два годзікі служыў.*
*Прыязджаў часам дахаты,*
*ганарысты вельмі быў.*
*А калі зусім вярнуўся,*
*зноў гуляў на ўсё сяло.*
*За адной як аглянуўся,*
*то жаніцца наперло.*
*Праз тры тыдні ўсе гулялі,*
*пелі, гралі весяло;*
*жываты усім трашчалі,*
*яды ўсякае было.*
*Па вяселі ўсяк жылося,*
*раз лепей, а другі — горш.*
*Дзіця першае нашлося,*
*а патом іх стала больш.*
*Не давалі яму спаці,*
*ўдзень спакойна парабіць.*
*А як сталі дарастаці,*
*не давалі яму жыць.*
*Трэба было модна ўбраці*
*і ў школу ўсё вучыць,*
*жаніць, замуж аддаваці,*
*вяселя ім парабіць.*
*Чалавек усё цягнуўся,*
*каб людзей зрабіці з іх.*
*Часта імі ганарыўся,*
*наракаў часом на ўсіх.*
*А калі пашлі па свеце,*
*стала ціха яму ўхаць,*
*ноччу сніліся свае дзеці,*
*чалавек стаў сумаваць.*
*Жыў без працы і трывогі*
*мог спакойна паляжаць,*
*але зноў круціла ногі,*
*не давала ўночы спаць.*
*Не пажыць яму ўжо многа,*
*дажываў да старых лет.*
*І адна ў яго дарога —*
*забірацца на той свет.*
*А калі зусім схіліўся,*
*звон па ім загаласіў,*
*хто заплакаў, хто маліўся,*
*чалавек ужо не жыў.*

**А. Леўшук,**
Ціванюкі

## Беларусіяна

### Адыграла вялікую ролю

Той, хто пастаянна чытае „Кантрасты", напэўна звярнуў увагу на распачаты галоўным рэдактарам штомесячніка Клеменсам Кжыжагурскім цыкл „Badacze pisma naszego", у якім паказвае радаслоўе прэсы на Беласточчыне. У студзеньскім нумары за бягучы год на 36 старонцы ў пятым раздзеле „Некалькі спроб і адна ўдалая" аўтар затрымоўваецца, адводзячы шмат месца, над гісторыяй заснавання, задачамі і значэннем тыднёвіка „Ніва". Галоўная думка, якую раскрыў аўтар у артыкуле вышэй спамянутага цыкла, заключаецца ўжо ў самім загалоўку „Некалькі спроб і адна ўдалая". К. Кжыжагурскі, даючы факталагічную аснову, цвёрда сцвярджае ў раздзеле, што сярод шматлікіх спроб стварэння новага часопіса, культуратворча і тэматычна блізкага нашаму чытачу, ажыццявіла гэта толькі „Ніва", якая сваім нараджэннем і звыш 20-гадовай жыццёвай дарогай споўніла ўсе пастаўленыя задачы і адыграла вялікую ролю ў развіцці літаратурнага руху на Беласточчыне.

**М. Шаховіч**

## З рэпарцёрскіх запісак

Найперш пра дзяўчыну. Найбольш запомніліся мне яе вочы — так многа ў іх было радасці і сардэчнай дабраты, ад якой робіцца цяплей на душы.

**Галіна Малаховіч** з вёскі Слоя. Адзінаццаць кіламетраў ад Саколкі. Актывістка мясцовага гуртка БГКТ. Жыве яна ў бацькоў, але працуе на сакольскай фабрыцы будаўнічай сталяркі і кожны дзень ездзіць на работу і назад.

— А вечарам, калі ўжо няма чаго рабіць дома, ідзем мы ў клуб, свой уласны, вясковы, а там — як што калі. Адзін раз проста кубак кавы або чаю і звычайная гутарка ў сяброўскім кружку. Іншым разам прабуем вывучаць нейкую песню або што другое. А калі танцаваць захочацца, дык хлопцы ўключаць дыскатэку, і вокны тады дрыжаць ад рытмічнай музыкі. І дзяўчаты тады не чакаюць партнёраў. Танцуем мы, — кажа Галінка, — усе разам, гуртам, бо дзяўчаты ўжо не трымаюцца хлопцаў. Толькі кожны сабе, у рытм музыкі. Поўнае раўнапраўе. Так, як на рабоце, дзе і шкло да вокан устаўляць трэба, кіт класці, і ліствы набіваць, і скручваць рамы — як што майстар вызначыць. Работа мне падабаецца, — сцвярджае дзяўчына. — І майстар добры, дае зарабіць, здараецца, што і звыш 3 тысяч злотых.

* ✲ *

Абое з Дубічаў Царкоўных. Яна — чарнявая прыгажуня. Даволі доўга працавала на пошце, а ён — у гмінным цэнтры культуры. **Люба Сабалеўская** і **Коля Шварц.** Яна любіць спяваць і мае звонкі голас, а ён спраўна іграе на акардэоне. Часта выступаюць яны разам на розных аглядах, конкурсах і канцэртах з нагоды шматлікіх гадавін і свят. Асабліва прыгожа выконвала яна вельмі модную і папулярную ў нашых вёсках песню пра цыгана Яна, у якога закахалася вясковая дзяўчына.

Першы раз сустрэўся я з імі ў Нараўцы гады два таму назад. І вось нядаўна яны зноў разам выступілі на цэнтральным аглядзе „Беларуская песня-77" у Беластоку, і я з прыемнасцю даведаўся, што іх сяброўства перарадзілася ў трывалае каханне і яны пажаніліся. Такім чынам Люба Сабалеўская стала Любай Шварц. І надалей яны разам выступаюць на розных сцэнах.

* ✲ *

Сённяшнія мае запіскі неяк звіняць музыкай, бо і ў Орлі, калі я туды завітаў, у гмінным цэнтры культуры пад гукі піяніна і электрычнай гітары таксама лілася задушэўная, лірычная песня. Язэп Янушка, інструктар Ваяводскага дома культуры, праводзіў рэпетыцыі па спеву са сваімі падапечнымі мясцовымі спевакамі. Тут, у Орлі, ГОК-ам кіруе **Ніна Мартыновіч,** а яе муж **Анатоль Мартыновіч** з'яўляецца старшынёю грамадскай рады гэтага ж ГОК-у. Выходзіць тады на тое, што муж вызначае праграму дзейнасці ўласнай жонцы, а затым яе кантралюе. Вынікі гэтага сямейнага супрацоўніцтва зусім нядрэнныя. Гмінны цэнтр культуры ў Орлі, маючы не найлепшыя ўмовы для працы, разгарнуў даволі шырокую дзейнасць. У самой Орлі існуе харавы і танцавальны аматарскі калектыў, у вёсках Тапчыкалы і Грэдалі дзейнічаюць хоры народнай песні. Гміннаму цэнтру культуры падпарадкаваны вясковыя клубы ў Міклашах, Крывой і Крывяцічах. У арлянскім ГОК-у былі наладжаны курсы ігры на музычных інструментах, таварыства свецкай культуры прысылала сюды сваіх дакладчыкаў, тут арганізоўваюць урачыстае святкаванне сярэбраных і залатых вяселляў, адбываецца таксама ўрачыстае ўручэнне пашпартоў (даводаў асабістых), дзейнічае гурток фоталюбіцеляў.

Ніна Мартыновіч расказвае яшчэ аб сувязях з Беластоцкай палітэхнікай. Аказваецца, што сярод студэнтаў гэтай вышэйшай школы знаходзіцца вельмі многа моладзі з Орлі, Крывой, Крывяціч і з іншых навакольных вёсак. Так і завялося гэтае супрацоўніцтва. Працаўнікі палітэхнікі прыязджаюць у Орлю і супольна з арлянцамі праводзяць час ля кастроў, на прагулках санямі, на гутарках аб цікавых справах. (вр)

 

## ФОТА ПА ЗАКАЗУ

## CZERWONE GITARY



*Заказвалі: Ірэна Вашкевіч і Альжбета Бушко з Белавежы, а таксама Валя Іванюк, Марыя Кулік і Ніна Себятынская з Тапчыкал.*

## ВЕР-НЕ ВЕР

Астроне, мне прысніўся такі сон. Быццам збіраюся я ісці ў бальніцу, каб наведаць там некага. Ага, але ж павінна я купіць кветкі. Іду, каб купіць кветкі каля касцёла. Ажно гляджу: на рагу вуліцы стаіць мой сваяк (пажылы чалавек) і прадае кветкі. Я падыходжу і хачу купіць у яго кветкі, а ў гэты момант у яго з рота вывальваецца штучная чэлюсць. Вывалілася і пакацілася па асфальце. Я прачнулася і вельмі перапужалася; мо з дзядзькам здарыцца нешта дрэннае? Кажуць жа, што калі прысніцца вырваны зуб, будзе гэта абазначаць пэўную смерць.

Эва з Беластока

Снілася мне рыба. Вялікая рыба. Нібыта ўваходжу я ў нейкі пакой, а там на стале ляжыць карп даволі вялікі, каля галавы перарэзаны, нежывы, а побач — шчупак, таксама разрэзаны каля галавы, але яшчэ жывы, варушыцца. Я глянула і хутчэй назад з пакоя. Кажу: „Хто гэта так зрабіў, не зарэзаў зусім рыбу, а толькі надрэзаў і яна так мучаецца“. Тут і прачнулася.

Вера

**Эва з Беластока!** Дарма ты так перапужалася. У сваяка твайго ж не выпаў зуб, а толькі штучная чэлюсць. Так што ніякай смерці не спадзявайся, тым больш, што і крыві ж там не было. Усё ж аднак будзе ў твайго дзядзькі нейкі ўрон, нечага пазбудзецца або будзе мець месца тут нейкая хвароба.

**Вера!** Шкада, што не магу цябе пацешыць, але спадзявайся або нейкай хваробы або непрыемнасці. Непрыемнасць гэта можа вынікнуць з цяжкай працы, якую ты выконваеш (рыба ж была недабітая, яшчэ варушылася).

**Астрон**

## Куток практычных ведаў




### ПРАЎДА, ШТО ПРЫГОЖА?

Курткі ў розных постацях: розных фасонаў, даўжыні, з самых разнастайных матэрыялаў — надалей вельмі модныя. А што ж можа быць больш зручнае для дзяўчыны, якая хоча выйсці на веснавы шпацыр або нават на заняткі — у школу ці вуз?

Куртку, якую вы бачыце на нашым здымку, можна насіць як са штанамі, так і са спаднічкай (зразумела, даўжэйшай). У халаднейшыя дні можна надзець нейкую шапачку і шалік.

На нашым здымку дзяўчына апранута ў штаны з джэрсі. Рукавы курткі з манжэтамі, накладныя кішэні. Куртка расшыраная, на карчыку.

Вельмі прыгожа выглядае такая куртка з мяккага ваўнянага матэрыялу. Раім пашыць сабе такую!

**Сяброўка**



## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Яшчэ перад вайной у вёсцы была праведзена камасацыя. Аднак А. і В. карысталіся з сваіх участкаў у іншых межах, чым былі ўстаноўлены падчас камасацыі. Гэткая сітуацыя ўзнікла пасля вайны. У 1972 г. паміж А. і В. узнік спор, як павінна праходзіць мяжа. Спор быў вырашаны судом, які прызнаў, што абавязвае мяжа, устаноўленая падчас камасацыі. У наступным годзе павятовыя ўлады выдалі А. і В. акты ўласці, у якіх пададзены памеры ўчасткаў, але не гаворыцца, як павінна праходзіць мяжа. Паколькі згодна з законам аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак уласнасць атрымоўвае той, хто карыстаўся з зямлі прынамсі пяць год, а мяжа, адменная ад устаноўленай у часе камасацыі, існавала гадоў каля дваццаці, узнікае пытанне, ці цяпер абавязвае мяжа, устаноўленая ў час камасацыі, ці тая, якая практычна існуе здаўна.

АДКАЗ: Спорны аб мяжы вырашае суд. Паколькі суд разглядаў справу і ўстанавіў, што мяжа павінна праходзіць згодна з камасацыйным планам, гэта рашэнне суда абавязвае таксама адміністрацыйныя ўлады, якія вырашаюць справы ўласнасці згодна з законам з 26.X.1971 года аб урэгуляванні ўласнасці сельскіх гаспадарак. Прызнаючы ўласнасць, адміністрацыйныя ўлады могуць адначасова акрэсліць мяжу данага ўчастка. У нашым прыкладзе гэткай патрэбы не было, бо справу мяжы вырашыў суд і гэтае рашэнне абавязвае, а зацікаўленая асоба можа патрабаваць выканання судовага рашэння.






Дарагое Сэрцайка! Ужо 12 год я замужняя. Але з мужам жыла толькі пяць гадоў. Выйшла за яго замуж маладая, кахала і не перашкаджала мне, што часта прыходзіў мой нарачоны п'яным. Пажаніліся. Хутка нарадзілася ў нас дачушка. Муж піў надалей. Да таго яшчэ меў іншых жанчын. Я аб гэтым ведала і спакойна гаварыла з мужам, прасіла, каб пакінуў ён усё гэта, каб заняўся сям'ёй, старалася стварыць утульны куток і прыемную атмасферу ў хаце, а ён аднойчы заявіў, што пакідае нас, выязджае, нават не сказаў куды. Не шукала я яго. Не плаціў мне грошай на дзіця. Выхоўвала яго адна, многа памаглі мае бацькі. Але два гады таму назад, на каляды, атрымала ад яго пасылку і паштоўку са святочнымі пажаданнямі. Неўзабаве атрымала пісьмо. Пісаў, што сумуе за намі, што сорамна за тое, што зрабіў. Пытаўся, ці можна прыехаць наведаць нас. Я згадзілася, бо ўсё ж ён бацька дзіцяці, ды і самой хацелася яго ўбачыць, бо нягледзячы на ўсё, кахаю я яго. А калі прыехаў, паводзіў сябе вельмі сардэчна. Пасля прыязджаў ужо і часцей. І прасіў дазволіць вярнуцца. Я аднак яшчэ адказу не дала. І хацела б, каб быў з намі, і крыху страшна. Не ведаю, што рабіць. Памажы мне, Сэрцайка.

Ніна з Беластока

Ніна! Справа не простая. Ранейшыя паводзіны мужа гаварылі б супраць яго. Калі п'е ды за жанчынамі ганяецца — гэта ўжо не муж і не бацька. Але бывае, што і такі з цягам часу зменіць свае паводзіны, засумуе за домам, за сям'ёй. Мусіш быць асцярожнай. Пагавары з мужам сур'ёзна і канкрэтна — дазволіш вярнуцца, калі парве назаўсёды з гарэлкай і з жанчынамі. Талераваць яго паводзін больш ужо нельга. І ў іншым выпадку астанецца толькі ўзяць развод.




* * *

Іаган Данш выпіў з тэрмасу шклянку ледзь цёплай кавы і закульгаў на вуліцу. Трэба было раней атрымаць паёк, а потым — у камендатуру. Учора па гораду расклеілі загад. Усе былыя франтавікі-інваліды павінны з'явіцца да дома бургамістра. Будуць раздаваць зброю. Фаустпатроны. Цікава, што гэта такое? Уцячы нельга. Камендант дома сказаў, што тых, хто ўцячэ, пазбавяць пайка. І яшчэ ён сказаў, што па радыё выступаў Гімлер. Рускія будуць знішчаны пад Берлінам. Берлін — вось канец рускіх. Гэта цвярдыня. Гісторыя хоча выпрабаваць арыйцаў...

Камендант быў усхваляваны і ўрачысты, калі расказваў Іагану аб гэтай прамове Гімлера. А ў Іагана не было радыё. Ні Герты, ні радыё, ні нагі. Правай нагі, няхай яго чорт возьме! Яму часам здавалася, што калі б не было левай, а правая была... Аднак, ці не ўсё роўна? Нагу ён страціў пад Масквой. Яшчэ ў сорак першым. І самае крыўднае — не ў баі. Проста адмарозіў. Гангрэна, ампутацыя — і ўсё. І як толькі магло здарыцца такое — адмарозіць нагу? Цяпер у гэта нават не верылася. А... усё роўна! З некаторага часу Іаган прывык жыць толькі сённяшнім днём. Ці трэба думаць аб заўтрашнім? Будзе паёк — значыцца, будзе заўтра.

З Гертай Іаган пазнаёміўся, калі вярнуўся дамоў. І з адной нагой, а ўсё ж мужчына. Яна прыняла яго, бадай, кахала нават. Ды і ён прывык — першая жанчына, як-ніяк. Тое, што было ў жыцці да вайны і да Герты, Іаган памятаў цьмяна, як пазаўчарашні сон.

Маршы і вечарынкі ў „гітлерюгендзе“. Здавалася, жыццё і складаецца з сяброўскіх вячэр і мужчынскіх клятваў у вернасці. І раптам адразу вайна. Маршы сталі іншымі. Побач гінулі таварышы, а жывыя збівалі ім крыжы...

Герта пайшла, як усе, будаваць умацаванні. І не вярнулася... Зноў недарэчнасць. Усе вярнуліся, а яна не. Яны працавалі там разам з рускімі палоннымі. Ну, гэта трэба ведаць Герту — пачала даваць рускім хлеб. Ахова не зразумела, адкрыла страляніну. А магчыма, мае рацыю Фелікс? Ахова ўсё зразумела? Не, лепш думаць толькі аб сённяшнім дні. Калі будзем думаць аб учарашнім, пачнём думаць і аб заўтрашнім. А што ён можа даць — заўтрашні дзень? Дваццаць тры гады — і без нагі. Але гэта яшчэ дробязь. А калі рускія сапраўды прыйдуць? „Дзе гэта вы страцілі нагу, гер Данш? — спытаюць яны. Бо яны могуць так спытаць. — Вы стралялі ў нас пад Масквой? І пакуль вы ішлі да Масквы, вы таксама стралялі, а не лускалі семкі. А ну, гер Данш, станьце да сценкі!“

Не, Іаган не баяўся смерці. Ён паспеў нагледзецца на яе, хоць і выяваў нядоўга. Проста недарэчна неяк уявіць сябе мёртвым.

Працаваў Данш на артылерыйскім заводзе, потым, калі рускія падышлі зусім блізка і завод перастаў атрымліваць сыравіну і паліва, Іаган разам з іншымі капаў траншэі і будаваў барыкады ў горадзе. Уласна, што можа капаць і будаваць бязногі? Данш дастаўляў на падводзе тым, хто працаваў, ежу і рыдлёўкі, развозіў снарады. Цяпер вось новая работа — фаустпатроны.

Калі Іаган падышоў да пункта раздачы пайкоў, там ужо стаяла чарга. Іаган прывітаўся з жонкай Людвіга, кіўнуў Гансу. Потым акуратна паставіў мыліцы да сцяны, разаслаў пусты рэчавы мяшок, зручней усеўся. Да яго пад'ехаў на сваёй калясцы, смешна ляпаючы па зямлі далонямі, Фелікс:

— Прывітанне, Іаган! Чуў навіну? Твае нацы шукаюць у горадзе рускіх парашутыстаў.

— Мае нацы! Яны такія ж мае, як і твае.

— Не, хлопец. Яны твае. Бо ты заўсёды з імі згодзен.

— А ты не згодны?

— Ну, хопіць, пажартаваў, пажартаваў! А парашутыстаў яны не дарма шукаюць. Хочуць пачысціць горад пад гэтай маркай. Памятаеш, як у мінулым годзе?

...Праз гадзіну яны атрымалі акуратныя пакецікі з бульбай і накіраваліся да дома бургамістра.

— Няўжо і цябе выклікаюць? — не пераставаў здзіўляцца Іаган, ледзь паспяваючы на сваіх мыліцах за каляскай Фелікса.

— Уяві, і мяне. Але гэта ім не дапаможа.

— Ты такі сярдзіты, Фелікс, таму, што яны ўзялі твайго брата, прызнайся! Гэта ж твая асабістая крыўда. Але ты не ведаеш: ён, магчыма, і праўда вінаваты. Дарэмна не возьмуць.

— Многа ты разумееш. Відаць, вельмі хутка яны адхапілі ў цябе нагу.

— Але чаму ж яны? Гэта справа рускіх.

— Так... Ведаеш, чаму я здзіўляюся. Чаму мы, немцы, наіўныя, як дзеці? Гэта наша нацыянальная рыса. Які там, да д'ябла, арыйскі дух. Проста дзеці. Нас змог абвесці вакол пальца нават вар'ят, звычайны вар'ят, каб яго чорт узяў.

— Цішэй, Фелікс, прашу цябе.

— А... што там цішэй!.. Мне ўсё роўна не жыць. Няхай і мяне за братам адправяць. А брат мой, калі хочаш ведаць, сапраўдны быў чалавек. Пакуль дыхаю, не дарую сабе, што не быў сярод яго таварышаў. Эх, якія гэта хлопцы, Іаган! Вось яны — немцы. А мы — так, статак. Ідзём на бойню і скубём траўку, як нічога і не было...

**(Працяг будзе)**



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Конкурс „БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ–77" вачыма нашых карэспандэнтаў

*Прагучэлі гмінныя, раённыя і цэнтральны агляды „Беларуская песня-77". Вядомы пераможцы, пра фінальны агляд у Беластоку пісалі журналісты. Але пакуль песня дайшла да Беластока, яна спявалася многімі жанчынамі і мужчынамі, дзяўчатамі і хлопцамі ў вёсках і гарадках. Нямногія слухалі фінальны агляд у Беластоку, але вельмі многія слухалі беларускую песню ў сваіх вёсках. Нямнога ўдзельнікаў прыехала на фінальны агляд у Беласток, але многа іх выступала ў вёсках.*

*Нашы вопытныя і актыўныя карэспандэнты былі ў пачатку конкурсу, якраз там, дзе родзяцца таленты, якія потым трыумфальна выступаюць у Беластоку. Нашы карэспандэнты хутка напісалі пра агляды ніжэйшай ступені і прыслалі нам свае матэрыялы.*

*Мы рашылі сёння сёмую старонку прысвяціць якраз гэтай важнай у культурным жыцці Беласточчыны праблеме. Усе матэрыялы, якія публікуем, і здымкі належаць нашым карэспандэнтам.*

### У КЛЯШЧЭЛЯХ

У гмінным доме культуры ў Кляшчэлях адбыліся элімінацыі конкурсу „Беларуская песня-77". Арганізатарамі былі ГП БГКТ і гмінны цэнтр культуры ў Кляшчэлях. У конкурсе прынялі ўдзел чатыры калектывы і дзве салісткі.

Першае месца заняў калектыў з Мілейчыц за выкананне сучасных беларускіх песень і калектыў з вёскі Тапаркі за выкананне фальклорных беларускіх песень.

Усе ўдзельнікі атрымалі рэчавыя ўзнагароды, прызнаны арганізатарамі.

Тэкст і фота **Сяргея Крэйзы**


Маладзёжны калектыў з Мілейчыц.


Добры жаночы квартэт з вёскі Тапаркі.

### СПРОБА ПАДСУМАВАННЯ

На Гайнаўшчыне гмінныя агляды адбываліся ў пачатку студзеня. Некаторыя гміны, іх партыйныя і адміністрацыйныя ўлады падыйшлі да гэтай справы з вялікім пачуццём адказнасці.

Дырэктар ГОК у Нараўцы Ольга Закройшчык пры падтрымцы і дапамозе сваіх улад падрыхтавала вялікі і вельмі цікавы гмінны агляд на высокім узроўні. Прыехалі спевакі з многіх вёсак гміны. Трэба сказаць, што Ольга Закройшчык чалавек надзвычай дысцыплінаваны.

Але таксама стараецца як можа Шварц Грыша, які з'яўляецца маторам культурнага жыцця ў гміне Дубічы Царкоўныя.

З жалем трэба сказаць, што дрэнна было ў гміне Белавежа. У конкурсе не ўзяла ўдзелу тут ніводная асоба, хоць магчымасці такія ёсць. На базе іхняга хору можна выбраць дасканалых спевакоў і добрыя групы. Ёсць і грошы ў гміне на гэтае мерапрыемства. Шкада! А не так даўно было тое, калі белавежцы займалі самыя лепшыя месцы ў конкурсе. І тыя самыя людзі ў далейшым жывуць у Белавежы, толькі ніхто адказны за гэта імі не займаўся. У размове яны заяўляюць, што ахвотны спяваць, выступаць. Таксама інструктары гайнаўскага ГДК некалькі разоў былі ў Белавежы і інфармавалі, што падрыхтоўка да конкурсу ідзе, што ўдзельнікі з Белавежы будуць. Ды ад'ехалі назад у Гайнаўку і на тым закончылася ўся падрыхтоўка. (вб)

### ЯШЧЭ РАЗ — РАЁННЫ АГЛЯД

Раённы агляд „Беларуская песня-77" адбыўся ў не так даўно адкрытым клубе земляроба ў Новаберазове. Удзел прыняла 31 асоба. Спевакі рознага ўзросту — ад вучаніц сярэдняй школы па звыш 60-гадовых мужчын і кабет. Яны спявалі розныя песні — фальклорныя і сучасныя. Вялікая зала клуба была перапоўнена. Сведчыць гэта аб тым, як патрэбны такія канцэрты ў нашых асяроддзях. Аднак насоўваецца і не зусім добрае адчуванне — малы ўдзел моладзі і недахоп удзельнікаў з чатырох гмін раёна. Гмінны агляд фактычна адбыўся толькі ў Нараўцы.

Агляд у Новаберазове распачаўся прывітальным вершам у выкананні Янкі Давідзюка — вучня са Збуча. Потым доўга гучалі беларускія песні. У выніку — на цэнтральны агляд у Беласток паехалі: Аляксандра Бонкард са Стачка (песні: „Ляці, галка, цераз палка", „Была-жыла ўдовушка"), Аліна Юшкевіч са Збуча („Дубок" і „Зорка Венера"), Люба Шварц („Ой, пайду я лугам, лугам", „Ручнікі"), квартэт са Скупава („Азёрэчка", „Там пад гаем") і секстэт з Арэшкава („Чырвоная вішня", „Дзісяй субота").

У раённым аглядзе прынялі ўдзел прадстаўнікі гмін Гайнаўка, Нараўка, Чыжы і Дубічы Царкоўныя.

**Аляксандр Закройшчык**

### ФОТАРЭПАРТАЖ З НОВАБЕРАЗОВА

У клубе селяніна ў Новым Беразове адбыўся раённы агляд конкурсу „Беларуская песня-77". Удзел прынялі самадзейнікі, якія прайшлі праз гмінныя агляды, а родам яны былі з Арэшкава, Новаберазова, Скупава, Нараўкі, Дубіч Царкоўных і Збуча.

Найбольш гучна быў прыняты секстэт з вёскі Арэшкава, септэт з Новаберазова, у якім выступілі тры пары — мужы з жонкамі, квінтэт са Збуча пад кіраўніцтвам Пятра Юшкевіча і салістка з Дубіч Царкоўных — Люба Шварц.

Тэкст і фота **Анатоля Шведа**


Люба Шварц з Дубіч Царкоўных.


Дуэт са Збуча, бацька з дачкой Аліна і Пётр Юшкевічы.


Слаўная сямёрка з Новаберазова — злева Ілья Петручук, Іван Ільяшук, Ольга Петручук, Мікіта Сапежка, Хвядора Сапежка, Кацярына Ільяшук і Зіна Швед.

Квінтэт са Скупава: Тамара Адамовіч, Яўгенія Сакоўская, Яўгенія Гарустовіч, Марыя Навіцкая, Міраслаў Навіцкі з гармонікам.


Аляксандра Бонкард з Нараўкі.


Шасцёрка народных спявачак з вёскі Арэшкава.




### З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ

*З'езд адкрыты распачаўся,*
*Вера стала гаварыць.*
*Прывітанні ўсім паслала —*
*З цёплых і гарачых слоў.*
*Будзь здарова авангарда!*
*Больш у „Ніве" крытыкуй!*
*Ты не бойся й не лякайся,*
*Часцей праўду апісуй!*
*Потым Янка Цялушэцкі*
*Вёў далей рабочы сход.*
*Ён за крытыку узяўся,*
*Дзе дастаў які адказ.*
*Паплылі гарачы словы,*
*Цёплы быў усім прыём,*
*Шчыра людзі гаварылі,*
*Хто каго дзе закрануў.*

**М. Лук'янюк**

### У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі „МАРНАТРАЎСТВА Ў ПУХЛОЎСКІМ ЛЕСЕ", „Ніва" 4 (1091) ад 23 студзеня 1977 года.**

**Адказвае: НАДЛЯСНІЦТВА БЕЛЬСК.**

Nadleśnictwo Bielsk Podlaski wyjaśnia jak niżej: Uroczysko Puchły należy do leśnictwa Pawły (Nadleśnictwo Bielsk Podlaski). W okresie, w którym powstały wywroty i złomy, obecny leśniczy odbywał służbę wojskową. W międzyczasie w leśnictwie Pawły byli zatrudnieni leśniczowie, jednak z uwagi na krótki okres ich pracy i małe zainteresowanie nie wykonali oni prac porządkowych i odeszli do pracy w innych zawodach. Duży wpływ miał także brak robotników do prac na tym terenie. Po powrocie obecnego leśniczego z wojska jesienią 1976 roku, skoncentrował on swą uwagę na prace związane z przygotowaniem gleby pod zalesienie i poprawki, natomiast do uporządkowania omawianego terenu planował przystąpić w zimie 1976/77 roku. Postępowanie takie było uzasadnione tym, że w tym miejscu, gdzie znajdowały się wywroty i złomy, z których można pozyskać przeważnie opał, był projektowany do założenia zrąb zupełny zgodnie z planem na 1977 rok.

W chwili obecnej na tej powierzchni prace związane z usuwaniem powalonych drzew są w pełni zaawansowane. Całkowite ich zakończenie nastąpi w miesiącu lutym 1977 roku.

**Nadleśniczy**
**mgr inż. Wł. Fiedoruk**

**Да публікацыі: „ДАРОГА", „Ніва" № 2 (1089) ад 9 студзеня 1977 года.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W NARWI.**

W sprawie naprawy drogi przy moście na rzece Małynka, Urząd Gminy w Narwi uprzejmie komunikuje, że została ona wyremontowana w dniach 3 i 4 lutego 1977 roku.

Jednocześnie informujemy, że odcinek drogi przy moście na rowie melioracyjnym znajduje się na terenie zabłudowskiej gminy. Zgodnie z artykułem 60 KPA powyższą sprawę przekazaliśmy do Urzędu Gminy w Zabłudowie, skąd należy oczekiwać odpowiedzi.

**Sekretarz Biura**
**Piotr Tichoniuk**




Карэспандэнт Вірскі просіць прабачэння, што не прыехаў на з'езд карэспандэнтаў, і далей: „На наступны з'езд можа будуць у мяне лепшыя вынікі, і прыеду, калі рэдакцыя ў далейшым будзе праводзіць конкурс на найлепшага карэспандэнта года".

Столькі карэспандэнт — адзін з перадавых, хоць скромнічае. А я з свайго боку хачу спытаць, адкуль у вас сумненні (відаць адразу — не былі на з'ездзе), ці конкурс будзе прадаўжацца?

Будзе!

**Вера Леўчук**

**Аматары песняў.** Не нервуйцеся, даражэнькія, калі не выконваем доўга вашай заяўкі. Прычыны дзве: або патрэбнай песні ў нас (пакуль) няма, або трэба выконваць заяўку ранейшую (іх у нас сотні!). Чакайце цярпліва, ніводнай просьбы не забываем.

„Niwa" — Tygodnik RSW „Prasa—Książka—Ruch". Skr. poczt. 149. 15-950 Białystok. TELEFON 2-32-41. Wydawca Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe RSW w Białymstoku. PRENUMERATA: Oddziały „Ruchu", urzędy pocztowe i listonosze. Indeks 36911/36671.

Імпартгумар

# Спецыфіка жанру

— Скажыце, калі ласка, як дабрацца да філармоніі? — спытаў я прахожага.

— Да філармоніі? Значыць, так, — пройдзеце да канца квартала. Ву-унь, бачыце, газетны кіёск стаіць. А адтуль да філармоніі ўжо блізка.

— Дзякую.

— Куды ж вы? Нам па дарозе. Зараз мы дойдзем да канца квартала, і я вам скажу, як ісці далей. Між іншым, індыйскі іёг Азруб Нухабабан устанавіў новы сусветны рэкорд для іёгаў паўцяжкай вагавай катэгорыі.

— А навошта вы мне гэта расказваеце?

— Проста запаўняю паўзу... А вось і газетны кіёск. Цяпер вам трэба перайсці плошчу. А потым сядзеце ў тралейбус.

— Дзякую.

— Пачакайце, нам па дарозе. Дарэчы!... Зусім нядаўна адзін п'яны цырульнік спрабаваў пагаліць Пушкіна. Участковы міліцыянер зняў узброенага брытвай парушальніка з помніка паэту і адправіў у выцвярэзнік... Вось мы і прыйшлі. Зараз вы павінны сесці ў тралейбус і выйсці на трэцяй вуліцы.

— Дзякую.

— Ды не бяжыце! Я таксама на гэты тралейбус... Праязны! Сядайце вось тут і не турбуйцеся — я вам скажу, дзе трэба выйсці.

— Дзякую.

— Вось і добра! Я якраз успомніў адзін камічны выпадак. Гэта здарылася ўлетку. Маці і пяцігадовы сын вярнуліся з курорту. Бацька пытае сына: „Скажы, там маму ніхто не крыўдзіў?". „Не, — адказвае сын, — наадварот..." Падрыхтуйцеся — на наступным прыпынку выходзіць.

— Дзякую.

— Хвіліначку, будзем прабірацца да выхаду разам... Нарэшце! У гэтым будынку і знаходзіцца філармонія.

— Ну, вялікае вам дзякуй.

— Не спяшайцеся развітацца, нам па дарозе. Вы, мабыць, па білет прыехалі? Касы справа. Абедзенны перапынак з першай да другай.

— Дзякую яшчэ раз. А вы таксама па білет?

— Не! На работу! Я тут працую. Канферансье...

**Аляксандр Куліч**



*Ціш-ш! Дзіця рыхтуе ўрок па музыцы.*



**...Ён, як губка: усё ўпівае, але нічога не пераварвае.**





*Індывідуаліст.*

### ЛАЙДАЧОК

*Ён да работы неахвочы —*
*То зубы „забаляць", то вочы.*
*За месяц тры-чатыры дні*
*Бывае ён на бюлетні.*

*Калі ж прыходзіць на работу,*
*Пачне рыпець, нібы вароты:*
*То перакажа ўсім навіны...*
*А то пачне з суседа кпіны...*

*І кожны дзень так, кожны раз*
*Ён забаўляецца ля нас.*
*А як зарплата выдаецца —*
*Ого! Да касы першы прэцца.*

**Міхась Стральчэня**

### ПЫТАННЕ

Малы хлопчык, які згубіў бацьку, звяртаецца з плачам да міліцыянера:

— Ці не бачылі вы мужчыну без такога хлопчыка, як я?




### ЛЕПШ У СУМАЧКУ

— У вас свае зубы ці ўстаўленыя? — пытае фурман-задрыпанец у пасажыркі.

— Якая вам да гэтага справа? — абураецца пасажырка.

— Ды я дзеля парадку. У нас такія дарогі, што калі зубы слаба сядзяць, то лепш выняць іх і схаваць у сумачку.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Я бачыў сёння ноччу надзвычайны сон, — расказвае Ранальд свайму сябру. — Разумееш, мне снілася, што я ўвесь дзень катаўся ў Коні-Айленд на чортавым коле.

— А мне снілася, — сказаў яго сябар, — што я сяджу ў кампаніі дзвюх чароўных бландзінак.

— І ты не мог мне патэлефанаваць?

— Я званіў, але жонка сказала, што ты паехаў у Коні-Айленд.

✲

Матросы выцягнулі свайго таварыша-шатландца, што ўпаў за борт, і налілі яму поўную шклянку віскі.

Шатландзец паглядзеў на шклянку і сказаў:

— Хлопцы, вы спачатку мяне перавярніце, каб з мяне вылілася ўся вада, а то я цярпець не магу разбаўленага віскі.

✲

Габравец вярнуўся пасля гадовага знаходжання ў Сафіі. На станцыі яго сустрэлі два браты. Яму адразу кінулася ў вочы, што ў абодвух бароды.

— Што гэта вы адпусцілі бароды? — спытаў ён. — Яны ўжо даўно выйшлі з моды.

— Мода! — сярдзіта сказаў адзін з братоў. — Ты ж забраў з сабою брытву!

*Звышсур'ёзнасць або звышнедаверлівасць.*

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

*Па просьбе К. Стральчук з Бельска, В. Бараноўскай з Пілатоўшчыны, Г. Карповіч з Юзафова і А. Палешчук з Гарадка змяшчаем песню*

## ŚWIAT SIĘ ZROBIŁ TAKI MAŁY

**słowa: Bogdan Olewicz**
**muzyka: Antoni Kopff**
**śpiewa Partita**

Ach, gdzie ten czas,
gdy stał tu las,
W leśnej chatce dziewczę zaś mieszkało
pośród malw.
Gdzie ciemny bór,
tam życia pół
przeczekało dziewczę, aby księcia
zrządził traf.

Świat się zrobił taki mały
Odległości tracą sens
Krótko trwa marzenie
W mig oblecisz Ziemię —
Zamiast księcia bywa szejk!

Ach, gdzie ten czas,
gdzie urok lat,
kiedy list pocztylion wiózł miesiąc
albo dwa.
I właśnie gdzieś
na listu treść
ktoś bezsennych nocy wiele czekał,
w oknie stał.

Świat się zrobił taki mały
Odległości tracą sens
Krótko trwa marzenie
W mig oblecisz Ziemię —
List tygodni idzie sześć!

Ach, gdzie ten świat,
ach, gdzie ten czas,
gdy na pocałunek czekał chłopak
dziesięć lat.
Gdy zechciał los
to setka wiorst
co dzieliła młodych była niby
świetlny rok.

Świat się zrobił taki mały
Odległości tracą sens
Krótko trwa marzenie
W mig oblecisz Ziemię —
Miłość trwa dziś jeden dzień!

Krótko trwa marzenie
Świata już nie zmienisz
Czy zakochać zdążysz się?!

### НЕ ЗМЯНІЛАСЯ

— Вам, пэўна, сумна без мужа? — спачувальна звяртаецца старшыня Аглаблёвіч да суседкі-ўдавы.

— Зусім не! Маю ўсё, што поўнасцю заступае мужа: папугая, які лае, аж вушы вянуць, малпу, што сядзіць з носам уваткнутым у газету, і ката, які вяртаецца дамоў на досвітку.

### КУДЫ САБАКА ЗАЛЕЗ

Два задрыпанцы спыніліся каля тэатральнай афішы. Першы пытае:

— Сёння прадстаўленне „Сабака на сене".

Другі сціснуў плячыма:

— І чаго ён туды залез?

### У ВАГОНЕ

— Паслухайце, ваш чамадан ледзь трымаецца на паліцы, ён зараз зваліцца на мяне.

— Не хвалюйцеся. У ім няма ніякіх шкляных рэчаў.






### БОЧКА ГАРГАНЦЮА

Дзе знаходзіцца самая вялікая вінная бочка? Жыхары вёскі Мікулава непадалёку ад Брно лічаць, што ў іх. Бочка-гігант з мясцовых вінных скляпоў умяшчае 10 тысяч 100 літраў віна. Яе даўжыня — шэсць з палавінай метраў, шырыня — чатыры з палавінай. Ахопліваюць бочку 22 абручы, кожны з якіх важыць 390 кілаграмаў. Узрост бочкі — 334 гады. Мясцовыя паданні сведчаць, што яе вырабіў майстар Кшыштаф Шпехт. Работа заняла 250 дзён.

### МУЗЕЙ З СЮРПРЫЗАМІ

Пасля рамонту ў Будапешце адкрыўся Музей філатэліі, славуты не толькі сваёй калекцыяй (каля 9 мільёнаў экземпляраў марак), але і маркамі-сюрпрызамі. Тут захоўваецца, напрыклад, першая венгерская марка з адлюстраваннем імператара Франца-Іосіфа. У каталогу Івера, які нядаўна выйшаў у Францыі, яна ацэньваецца ў 50 тысяч франкаў. І вось чаму. Калі заказчыкі атрымалі яе і ўбачылі знявечаны, быццам воспай, твар яго імператарскай вялікасці, яны загадалі знішчыць усю партыю. Некалькі экземпляраў аднак уцалела і нават трапіла ў паштовы абарот.

Ёсць у калекцыі яшчэ адна незвычайная марка. У 1861 годзе паштмейстар былой англійскай калоніі Нью-Брансуік Чарльз Конель, пераканаўшыся ў тым, што запас марак з адлюстраваннем англійскай каралевы скончыўся, заказаў у метраполіі новую партыю. Атрымаўшы пакет, служачыя пошты ў жаху адскочылі: з марак на іх глядзеў барадаты твар паштмейстра.




**Не пераацэньвай сваё жыццё: памятай, яно — бясцэннае!**